# УЛАДЗІМІР ПРЫБЫТКОЎСКІ

Уладзімір Прыбыткоўскі (прозвішча, магчыма псеўданім; з канца 1920-х г. падпісваўся — Прыбытак Лад) — паэт, крытык. Інфармацыі аб лёсе У.Прыбыткоўскага не захавалася. Таму паспрабуем даць уяўленне аб гэтым пісьменніку праз яго творы.



Прыбыткоўскі У. (злева) і Кляшторны Т.

Пачынаў У.Прыбыткоўскі не з фанфараў. У часопісе «Аршанскі маладняк» у аддзеле «Паштовая скрынка» чытаем:

«Курыльчыку[1], Прыбыткоўскаму, Запольскаму[1]. У прысланых матэрыялах ёсць недахопы, зачым яны накіраваны ў Горацкі студыйны гурток «Маладняка», дзе будуць разгледжаны, з увагай на памылкі...»[2] Але ўжо ў другім нумары «Аршанскага маладняка» з'яўляецца «падмаякоўскі» тэкст (вершам яго назваць цяжка) У.Прыбыткоўскага «Сёння — дысананс», дзе ёсць радкі:

*Раніца*
*кастрычніка*
*крывавая*
*акрывавіла*
*пялёнкі мае*
*крывёю...*
*існуюць разам з:*

*Паравоз!*

---

[1] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.
[2] Аршанскі маладняк. 1926. № 1. Студзень.

*Ты-ж ня гад-кулак,*
*не падліза-нэпман…*

З трэцяга нумара часопіса У.Прыбыткоўскі становіцца адным з пастаянных яго аўтараў і сябрам Аршанскай філіі «Маладняка»[2]. Амаль у кожным нумары друкуюцца яго творы. То ў выглядзе закліку да «балванаў», якія «распусцілі нюні» (верш «Паскуднікам» — адна назва чаго варта):

*…лепш*
*вучыцеся,*
*як лепей!*
*сеяць «проса»*
*І як ворага*
*па мордзе*
*трэба біць…*

То ў выглядзе дзедавай прымаўкі з абавязковым класавым ухілам:

*Толькі з маёй сілы*
*не было карысці,*
*бо трэ было пану*
*век канюшні чысціць.*

Або віншаванне Я.Коласу ў сувязі з дваццацігадовым юбілеем яго літаратурнай дзейнасці ў такім выглядзе:

*Затраслося трысцё, зашуршэлі асокі:*
*«каласка заглушыць трэба»,*
*бо ім страшна, каб ён не ўзняўся высока:*
*бо яны ж не даюць хлеба!*

І нават проста «пра снег», у яшчэ адной рэчы, У.Прыбыткоўскі піша «па-камуністычнаму сурова»:

*Развеяць,*
*ударыць,*
*нагамі ў хмары,*
*хай зваліцца*
*снег*

*на галовы,*
*мы стопчам*
*і снег,*
*і драпежныя мары,*
*і ўзняўшыся*
*глянем на неба*
*сурова...*

У рэчы «Драма мамы» чытаем такі “натуралізм”:

*«Дзе мама і папа» –*
*пытаюся,*
*калупаючы ў носе,*
*а пад носам*
*чорненькі грыб.*
*«Мама ў кабаку,*
*а папа ў паравозе».*
*І пальчык на шыбе:*
*Скрып...*

«Мне чамусьці нагадваў лясную птушку У.Прыбыткоўскі, які вельмі таропка і адрывіста гаварыў і, нібы крыламі, размахваў рукамі»[3], — пісаў ва ўспамінах С.Шушкевіч.

У 1926 г. У.Прыбыткоўскі дэбютуе як крытык. З'яўляецца яго рэцэнзія на кнігу М.Зарэцкага «Голы звер»[4], на зборнік Я.Пушчы «Vita” [5], артыкул «Індывідуальнасць і сучасная літаратура»[6]. Пра Прыбыткоўскага-крытыка Я.Калядны[7] пісаў: «[Ён] аб'ектыўны і ўсебаковы ў крытыцы і зусім неаб'ектыўны і нікуды нягодны крытык». З Я.Калядным спрачаўся Міхаіл Ганчарык: «Прыбыткоўскі не стаіць на раздарожжы, як Дудар, проста і шчыра кліча кінуць у вёсцы і ў горадзе «слёзы дзедаўскія сеяць па пяску» і, каб скарэй знішчыць кулацка-нэпаўскі дысананс сучаснасці, зазывае «без вагання прыстаўляць наган к віску».

У канцы 1927 г. У.Прыбыткоўскі ўступае ў «Літаратурна-мастацкую камуну» (лідэрам і стваральнікам аб’яднання быў Паўлюк Шукайла; сярод сяброў – Я.Скрыган, А.Гародня[3], А.Атава[4], У.Варава[5] і

[3] З асабістага архіва Л.Маракова.
[4] Аршанскі маладняк. 1926. № 3.
[5] Аршанскі маладняк. 1926. № 2.
[6] Аршанскі маладняк. 1928. № 7.
[7] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

інш.). Пачынае друкавацца ў часопісе «камуны» — «Росквіт», у якім нястомны «камунар» заклікае:

*Ты хочаш паэтам зрабіцца? –*
*Рабіся хутчэй чалавекам:*
*Пакінеш мяшчанства драбніцы,*
*Насыплеш дабра ў засекі.*

У кнізе М.Гарэцкага «Маладняк» за пяць гадоў» (1928) ёсць некалькі ўпамінанняў пра У.Прыбыткоўскага: «У 1926—27 г. з'яўляюцца шэраг маладых іменняў у філіяльных выданнях «Маладняка», як Броўка, Хадкевіч[6], Ананьеў, Люгоўскі[8], Катановіч[9], Прыбыткоўскі, Таўбін і інш… Слаба афармляюцца Лявонны, Маркава, Прыбыткоўскі, Броўка. З іх асаблівыя надзеі можна пакладаць на Маркаву… Ёсць некалькі сяброў, што пішуць крытычныя артыкулы і рэцэнзіі паміж пісання літаратурных твораў (Барашка, Гародня, Гаўрук, Прыбыткоўскі…)»[10]. Ю.Віцьбіч аб У.Прыбыткоўскім пісаў па-іншаму: «Найздатнейшым у ёй («Літаратурна-мастацкай камуне». — ***Л. М***.) быў Прыбытак Лад" (псеўданім У.Прыбыткоўскага? — ***Л. М***.).

Вясной 1928 г. У.Прыбыткоўскі выходзіць з літаратурных аб'яднанняў «Літаратурна-мастацкая камуна» і «Маладняк», але пачынае друкавацца ў аднайменным часопісе. У вершы з прысвячэннем пралетарскай інтэлігенцыі чытаем:

*Шукалі лапці,*
*Шукалі боты!*
*Хай жа ярчэе*
            *калгас у целе!!*
*Гудкі!!!*
      *Мы разам сталі на работу?!!*
*І каласамі,*
         *радасцю –*
              *зямлю ўсцелем!*

У апошнім з вядомых надрукаваных вершаў ("Марш калектывізацыі") неўгамонны У.Прыбыткоўскі (цяпер ужо ён Прыбытак Лад) заклікае:

---

[8] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.
[9] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.
[10] Гарэцкі М. Маладняк за пяць гадоў. Мн., 1928.

*З упартасцю трактароў*
*мы не прыстанем,*
*Ад меж і ад ворагаў*
*землі аголім…*

і далей –

*Зрунься*
*упартасцю*
*трактара,*
*дзірвань*
*былога*
*ўзрывай.*
*Шырокім*
*калгасным*
*трактам*
*маршыруй,*
*маладая*
*братва.*

Па некаторых звестках (Беларускія пісьменнікі. Т.6. С.656. Мн., 1995), рупара «маршыруючай братвы» НКВД у 1933 г. арыштавала і выслала з Беларусі. Але ў “Ступенях адказнасці” Ю.Гаўрука чытаем такі тэкст: «З 1925 па 1930 гг. пры акадэміі (у Горках. — ***Л. М***.) плённа працаваў літаратурны гурток… Назаву некалькі імён (аршанскіх маладнякоўцаў. — ***Л. М***.): Васіль Каваль… Уладзімір Прыбыткоўскі — цудоўны паэт, загінуў у пачатку Айчыннай вайны, здаецца, недзе на Брэстчыне і, на жаль, цяпер зусім забыты…»[11]

Наконт “цудоўны паэт” з Ю.Гаўруком можна спрачацца, а вось наконт таго, што большасць з пісьменнікаў “другога рада”, якія працавалі ў 1920—1930-я г., цяпер забытыя, здаецца, гістарычны факт.

[11] Гаўрук Ю. Ступень адказнасці. Мн., 1986.

---

[1] **ЗАПОЛЬСКІ Міхаіл Мікалаевіч** [21.1.1893, в. Калядзічы Мінскага пав. — 10.10.1956, Мінск], паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык. З канца 1919 у эміграцыі. З 1920 да 1950 жыў у Каралеўстве сербаў, харватаў і славенцаў (пазней Югаславія), потым у Балгарыі. З 1956 у БССР. Пахаваны на Усходніх могілках.

Кр.: *БП*, т. 6.

[2] З 1925 па 1928 кіраўніком Аршанскай філіі «Маладняка» быў М.Ганчарык.

**ГАНЧАРЫК Міхаіл Мікалаевіч** [12(24).11.1899, в. Кляннік Ігуменскага пав. Мінскай губ., цяпер Смалявіцкі р-н Мінскай вобл. — 11.4.1986, Мінск], вучоны-біёлаг, пісьменнік. У 1914 скончыў Ігуменскае пачатковае вучылішча. Першыя вершы апублікаваны ў 1914 у газ. «Наша ніва». У 1917—24 вучыўся ў Горы-Горацкім земляробчым інстытуце, дзе ўзначальваў Беларускую секцыю студэнтаў. У 1925—28 кіраўнік Аршанскай філіі «Маладняка». Выступаў з літаратурна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі. Друкаваўся ў газ. «Вольная Беларусь», «Беларусь», час. «Аршанскі маладняк», «Рунь», «Зоркі». У 1924—29 працаваў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі (БСГА). У 1927 уступіў у ВКП(б). З 1929 працаваў у Інстытуце біялогіі БелАН, з 1931 нам. дырэктара, в. а. дырэктара. Быў жанаты, гадаваў дваіх дзяцей. Арыштаваны 14.9.1933 у Мінску па адрасе: вул. Ленінская, д. 29/35, кв. 49а. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 9.1.1934 як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі БНЦ» да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Байкала-Амурскі канцлагер (Свабодны, цяпер Амурская вобл.). З мая 1938 пакаранне адбываў, верагодна, у Амурскім чыгуначным канцлагеры, пасля ў Свабодненскім (як і Амурскі, знаходзіўся побач з расфарміраваным Байкала-Амурскім) альбо Ніжне-Амурскім лагеры. Пасля вызвалення (8.1.1947) старшы навуковы супрацоўнік Арлоўскай доследнай станцыі. Арыштаваны 15.2.1949 УДБ па Арлоўскай вобл. Пастановай Асобай нарады ад 18.5.1949 высланы ў Краснаярскі край. У 1949—56 працаваў старшым навуковым супрацоўнікам, дырэктарам Ігарскай доследнай станцыі Інстытута сельскай гаспадаркі Крайняй Поўначы. Знаходзячыся ў высылцы, распрацаваў асновы палярнага земляробства. Вызвалены ў ліп. 1954. Рэабілітаваны 18.4.1956. З 1956 у БСГА, з 1958 старшы навуковы супрацоўнік Інстытута біялогіі АН БССР, у 1961—86 загадчык аддзела, дырэктар, загадчык лабараторыі Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР. З 1960 доктар біялагічных навук, прафесар; з 1969 член-карэспандэнт АН БССР; з 1972 заслужаны дзеяч навукі БССР. Аўтар шматлікіх навуковых прац па фізіялогіі і біялогіі раслін. Аўтар кнігі пра прэзідэнта АН БССР В.Купрэвіча «Рэвалюцыянер, арганізатар, вучоны» (1981). Апошнія гады працаваў над кнігай мемуараў, якія не паспеў скончыць. Рэабілітаваны ваенным трыбуналам БВА 18.4.1956. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках. Асабовая справа Г. № 10182-с з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.



Ганчарык М. М.

3 **ГАРОДНЯ Алесь** [сапр.: Функ Аляксандр Эраставіч; 8.1.1899, Перм, Расія — 12.9.1944, ГУЛАГ], празаік, крытык, рэдактар. З нямецкай памешчыцкай сям'і, якая мела маёнткі на Пружаншчыне. У 1917 прыехаў з Фінляндыі ў Маскву, дзе стаў членам мясцовай арганізацыі БСГ. Працаваў тэхнічным рэдактарам у час. «Чырвоная Беларусь» (пачатак 1930), разам з М.Чаротам, В.Мараковым і мастаком А.Тычынам (апошні ў 1920-я г. супрацоўнічаў і з час. «Маладняк», а ў 1934 аформіў кнігу В.Маракова «Жыццё ў цвеце», якая не выйшла з друку па прычыне арышту паэта). Друкавацца пачаў у 1925. Член «Літаратурна-мастацкай камуны», пазней сябра «Маладняка». У літаратуры 1920-х г. у асноўным вядомы як крытык, які граміў нацдэмаў: А.Бабарэку, Ф.Купцэвіча, А.Дудара і інш. Арыштаваны 3.11.1930 у Мінску па адрасе: зав. Маляўскі, д. 19. Асуджаны паводле пастановы калегіі АДПУ СССР 15.6.1931 за тое, што «скрываў каштоўныя звесткі пра беларускіх нацыянал-дэмакратаў», да 10 гадоў ППК. Этапаваны ў Беламорска-Балтыйскі канцлагер НКВД Карэла-Фінскай АССР (ст. Мядзведжая Гара).

*«На будоўлю Беламорска-Балтыйскага канала паехала беларуская экскурсія — Лынькоў, Кучар, Галавач... Вярнуўшыся, нашы дэлегаты сказалі, што бачылі там Алеся Гародню... Божа, колькі гэта дало мне болю і гора! Адразу ж перад вачыма паўстаў мне яго гіпсавы гарсэт, зашнураваны белым шнурком на грудзях. Як жа ён там вытрымаў?»* (Скрыган Я. Той час, альбо Алесь Гародня. ЛіМ. 1990. № 43).

У канцлагеры да 1934. Пасля вызвалення, магчыма, жыў і працаваў у Бабруйску (знаходзіцца ў Мінску яму было забаронена). Зноў арыштаваны 30.11.1935. Ужо ў высылцы ў Самаркандскай вобл. Узбекістана 19.12.1942 прыгавораны да ВМП, замененага 10 гадамі канцлагераў. Загінуў у

---

зняволенні. Рэабілітаваны 13.9.1988. Асабовая справа Ф. № 20966-с захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

[4] **АТАВА Апанас** [сапр.: Кананoвіч Апанас Майсеевіч; 8(21).5.1903, в. Нявязды Слуцкага пав. Мінскай губ., цяпер Слуцкі р-н Мінскай вобл. — 28.10.1962], паэт. З сялянскай сям'і. Скончыў СШ, Мінскі настаўніцкі інстытут (1939). Удзельнік Першага з'езда «Маладняка» (1925). Пісаў толькі ў 1920-я г., што, верагодна, і выратавала яго ад рэпрэсій.

Кр.: *БП*, т. 1.

[5] **ВАРАВА Уладзімір Аляксеевіч** [14(26).7.1896, в. Вялікія Жухавічы Навагрудскага пав. Мінскай губ., цяпер Карэліцкі р-н Мінскай вобл. — 4.5.1929, Мінск], празаік**.** У 1920-я г. некалькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі. Член ВКП(б) з 1923. У 1927 — 1928 — член «Літаратурна-мастацкай камуны».

*«Цікаваю фігураю ў «Літкамуне» быў Уладзімір Варава, (…) колішні падпольны работнік у Заходняй Беларусі, пісьменнік з вельмі вострым палітычным зрокам...»* (Скрыган Я. Некалькі хвілін чужога жыцця. Мн., 1990). Гл. таксама: *БП*, т. 1.

[6] **ХАДКЕВІЧ Тарас Канстанцінавіч [**23.2(7.3).1912, в. Шайцэрава, цяпер Віцебская вобл. —14.08.1975], літаратар. З сялянскай сям'і. Пасля сканчэння сямігодкі паступіў у Полацкі педагагічны тэхнікум (1927—29). З 1926 — сябра «Маладняка». З 1929 па 1931 працаваў у газ. «Чырвоная Полаччына». У 1931—33 студэнт МВПІ. У 1933—34 супрацоўнік газ. «Чырвоная змена». З 1934 служыў у арміі, друкаваўся ў газ. «Красноармейская правда». З 1935 — у газ. «Звязда».

*«Прыходзім на работу, разгортваем свежы номер «Звязды», чытаем артыкул за подпісам «Тар.Хадкевіч» і самі сабе не верым. Што ў ім, гэтым Тарасавым артыкуле, толькі не напісана. Сосінаў, вораг народа, узначальвае гарком партыі. Тарас мой ажно пабялеў, твар яго дрыжэў, вочы напоўніліся слязьмі... [Потым] даведаліся, што артыкул Хадкевіча «правіў» сам Юркоў»* (галоўны рэдактар «Звязды». — Л.М.) (Кавалёва П. Праца для яго была радасцю. Полымя. 1989. № 12).

*«У 1935 годзе рэдакцыя «Звязды» камандзіравала Т.Хадкевіча ў Асвейскі раён. Неўзабаве адтуль паведамілі, што «карэспандэнт Хадкевіч цяжка захварэў і адпраўлены на лячэнне ў Ленінград». Упэўнены, што гэтая хвароба ўратавала Тараса ад масавага «хапуна» 1936—1937 гадоў»* (Грахоўскі С. Незабыўны Тарас. ЛіМ. 1992. 6 сак.).

З 1950 супрацоўнік газ. “ЛіМ”, з 1953 літаратурны кансультант Саюза пісьменнікаў БССР.

*«Пасляваенная творчасць [Т.Хадкевіча] прысвечана інтэрнацыянальнай еднасці антыфашыстаў <…>, жыццю калгаснай вёскі <…>, людзям новабудоўляў… Аўтар пяці зборнікаў апавяданняў для дзяцей»* (І.Чыгрын).

Пахаваны Х. на Паўночных могілках. Гл. таксама: *БП*, т. 6.